№ 41. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 41 (133). Год II. Вільня, 22 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## НЕДАВЕР'Е УРАДУ.

### 21 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Учора англічане атакавалі наабапол дарогі Аррас-Камбрэ на шырыні 12 кілём. Уварваўшыеся на нашы акопы на ўсходзі ад Кроассіль былі выкінуты контратакай. Такі-ж канец быў новых атак пабедзі, вечэрам і ў начы між Фонтэн і Бількур. Мы удзержалі ў сваіх руках усе нашы пазыціі апрыч аднаго зусім расстрэлянаго акопу, каторы мы плянова пакінулі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Ляфо французскіе мейсцовые наступленьня нічога не дайшлі. Пры Брэ, Сэрнэ і на заходзі ад хутара Іртбіз мы палепшылі свае пазыціі, здабыўшы акопы ворагоў, каторые і удзержалі, ня гледзячы на спробы ворагоў адабраць іх назад.

У Шампані ўчора ішлі вельмі цяжкіе бітвы. Трываючая ў апошніе дні артылерыйская бітва дайшла на раніцы крайняй сілы. Пасьля палудня французы павялі магутные штурмы проці вяршын на поўначы ад дарогі Прюнэ—С. Ілер ле Гран. У вострай бітве, трываўшай да цёмнаго, ворагам удалося ўдзержацца на гарэ Корній, на поўдні ад Норуа, і на Кайльбэргу, на палудзенным заходзі ад Моран Вільe. Мы ляжым на палудзенных склонах вяршын. Бітва за вяршыны перасоўвалася ўпярод і назад. Здабытые сперша удачы былі адабраны у ворагоў шыбкай контратакай. Старые пазыціі ізноў у нашых руках. У вечары новые атакі былі адбіты на ўзятых намі назад лініях. Крывавые страты ворагоў былі і ўчора надта значные.

---

Ворагі утрацілі ўчора 14 самалётаў.

**Усходні тэатр:**

Палажэньне без перамен.

---

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг «Бірж. Вед.», новае міністэрство уложэно ў часі **вялікіх дэмонстрацій на вуліцах**. У цэнтры Пецярбурга і на акраінах збіраліся чысьленые грамады народу. На Невскім праспэкці былі сільные разрухі, калі вышлі вячорные газэты. Заседаючый у Пецярбурзі з'езд дэлегатоў с фронту толькі ў невялікай меры быў здаволен утварэньнем коаліцыйнаго габінэту. З розных бакоў чутны жаданьня адстаўкі ўсяго тымчасоваго правіцельства, каторае складаецца адно толькі з людзей заможных станоў і ў душы стаіць за палітыку аннэксій.

**Крайніе левые** далей вядуць **опозыцію** проці правіцельства.

КОПЭНГАГА. Новы расейскі урад не пускае Сазонова за пасла ў Лондон, бо ён закляты староннік ваенных мэт саюзьнікоў.

З гэтай жэ прычыны, здаецца, будзе ўзят назад с Парыжа Ізвольскій.

За **намесьніка Буканэна** за англіцкаго пасла паедзе ў Пецярбург сэр Фрэнціс Бэрті.

БАЗЭЛЬ. Гавас даносіць, што Керэнскій назначыў генэрала Романовскаго за начальніка генэральнаго штабу пры міністэрстві.

Урад організаваў побач з ваенным міністэрствам **новае міністэрство дзеля спраў амуніціі.**

«Утро Россіі» даносіць, што **мост між Ростовам і Батайльскам знішчэн**. З гэтай прычыны разорваны зносіны с Каўказам. У Батайльску знаходзяцца мільёны пудоў спажыўных прадуктоў для арміі, каторые тамака гніюць.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). **Офіцыяльна.** Новые спробы расейскіх лятуноў з Лебары на о. Эзэлі перашкодзіць рабоці нашых вартаўнічых лодак вызвалі 18 мая **бітвы на паветры**, ў часі каторых збіты два самалёты ворагоў. Апрыч таго здэрыліся між сабой два варожые самалёты і зваліліся стромка ўніз.

АМСТЭРДАМ. Англіцкі міністэр працы, Гэндэрсон, **адмовіўся ехаць у Расею** с прычыны палажэньня, вытворэнаго забастоўкамі.

КОПЭНГАГА. З Лондона даносяць, што вялікі забастовачны рух англіцкіх работнікоў усё болей напамінае **рух сындыкалістоў**. Чысьленые спробы пасрэдніцтва ніколі ня мелі трывалай удачы.

Кіраўнікі прафэсыональных саюзоў зусім утрацілі сваю павагу і нічога супроць забастовачнаго руху ўчыніць ня могуць.

ЛЮГАНО. Як прызнаецца італьянская глаўная кватэра, **італьянскае наступленьне на Ізонцо спынілося**. У Італіі не відаць радасьці с прычыны палажэньня справы.

ВАШЫНГТОН (ВТБ. Рэўтэр). Презыдэнт Вільсон апублікаваў адозву, якая апавешчае на **5 чэрвеня агульны набор рэкрутоў**. Грамадзяне і работнікі, каторые астануцца дома, становяць такуюж часць арміі, як і тые, што будуць у войску. Народ павінен утварыць неразрыўны фронт супроць ворагоў. Конгрэсс зрабіў крокі дзеля раздзелу службы паводлуг класоў, каб кожын быў пастаўлен на такое мейсцо, дзе ён можэ найлепей працаваць дзеля грамадзкай карысьці.

ПЕЦЯРБУРГ. 19 мая. П.Т.А. апавешчае гэткую заяву наваладжэнаго тымчасоваго ураду:

„Наваналаджэнае і ўмацованае прэдстаўнікамі дэмократіі тымчасовае правіцельство апавешчае, што яно энэргічна правядзе ў жыцьцё ідэі волі, роўнасьці і брацтва. Еднасць тымчасоваго ураду апіраецца на гэткіх асновах яго будучай працы. У заграннічнай палітыцэ расейскі урад, у згодзі з усім народам, адкідае ўселякую думку аб сэпаратным міры і адкрыта дабіваецца устанаўленьня агульнаго міра, каторы ня меў-бы на мэці ні панаваньня над другімі народамі, ні заўладаньня іх нацыональным меньнем, ні прылучэньня гвалтам іх зямель,—міра без аннэксій і контрыбуцій, на аснові самаапрэдзеленьня народаў. Цьвёрда веручы, што ўпадак царскаго правіцельства ў Расеі і ўмацаваньне асноў дэмократызму ў унутрэнай і заграннічнай палітыцэ стварылі ў саюзнай дэмократіі новае жаданьне доўгаго міра і брацтва народаў, тымчасовы урад учыніць крокі, каб зрабіць с саюзьнікамі умову на аснові заявы 9 красавіка.

„Будучы пераконаным, што проігрыш Расеі і яе саюзьнікоў аддаліць момэнт міра на гэткіх асновах, або зробіць яго немагчымым, урад адзначывае, што рэвалюцыйная армія не дасць нямецкім войскам перэмагчы нашых саюзьнікоў на заходзі, каб пасьля накінуцца ўсемі сваімі аружнымі сіламі на нас. Узмацаваньне прынцыпа дэмократызаціі арміі і узмацаваньне яе ваеннай сілы будзе бастанавіць чародную задачу правіцельства. Яно будзе энэргічна бароцца з экономічным безладзьдзем у старонцы, завядзе пляновы надзор над вырабам, перавозкамі і раздзелам прадуктоў, а ў патрэбі наладзіць такжэ і самы выраб; далей будуць апрацованы спосабы поўнай зашчыты працы. Пытаньне аб раздзелі зямлі між працуючымі на ей будзе развязано устаноўчым сходам. Правіцельство пачне дзеля гэтаго падгатавіцельные работы і зробіць усё патрэбнае, каб забаспечыць у чым большай меры дабычу патрэбнаго стране збожжа і ўпарадкаваць выработку зямлі згодне с патрэбамі нацыональнай гаспадаркі і працоўнаго народу. Работа дзеля наладжэньня і ўмацаваньня дэмократычных установ будзе трываць далей. Урад пастараецца чым скарэй сазваць у Пецярбурзі устаноўчы сход. Цьвёрда прызываючы ўсіх грамадзян паддзержаць еднасць уласьці, каторая выяўляецца у правіцельстві, урад заяўляе, што ён учыніць самые энэргічные крокі проці спроб контррэвалюціі і проці незаконных, гвалтоўных і анархістычных учынкоў, якіе губяць старану і прыгатаўляюць грунт дзеля контррэвалюціі“.

---

*Вільня, 22 мая 1917 г.*

Безмалала тры гады вайны палажылі вельмі глыбокі сьлед у жыцьці нашаго Краю, асабліваж сталічнаго места яго, Вільні, каторае аддзеляе ад баевога фронту ўсяго 70 кілёмэтроў. Цяпер, калі мір ужо ўсім выдаецца вельмі блізкім, прыйшлі найбольш цяжкіе для народу часы; і трэба напярод сказаць, што ешчэ пасьля канца вайны доўгі час будзе трываць ненормальны стан. З гэтай прычыны задачы нашаго грамадзянства бяз розніцы нацыональнасьці робяцца ўсё цяжэйшымі, ўсё трудней іх выпаўняць кожнай нацыональнай групе паасобку. Настаў час, калі толькі дружнай працай усяго насяленьня мы можэм перэмагчы ўсе беды вайны, калі нельга далей ісьці кожнаму самому па сабе.

У гэткі момэнт павінны змоўкнуць нацыональные сваркі і споркі, якіе дагэтуль руйнавалі ўсе зачаткі супольнай работы ўсяго грамадзянства. Грамадзкіе організаціі, як нацыональные так і міжнацыональные, каторые за сваю мэту паставілі ратаваць людзей ад голаду і нэндзы, павінны падаць адна аднэй руку і ўсе сілы з'еднаць у адным кірунку. А кірунак гэты—зусім ясны: забаспечыць кусок хлеба і лыжку гарачай стравы тым грамадам беднаго народу, які ў ваенным часі астаўся без працы, без заробку, без магчымасьці пракарміць сябе і сваіх дзяцей.

Як бачым з офіцыальных апавестак, окупацыйные ўласьці вельмі сур'ёзна ацэніваюць палажэньне ў нашым горадзі. Тым больш энэргіі павінно выявіць нашае грамадзянство.

Сумны канец першай агульнакраёвай грамадзкай організаціі ў Вільні — Віленска-Ковенскаго Грамадзянскаго Камітэту не павінен навадзіць на нас сумных дум. Сьмерць Грамадзянскаго Камітэту была вызвана тым, што ён быў збудован на неправільных асновах: у ім панавала над другімі адна нацыональная група, каторая і прыпыніла работу Камітэту, як гэтаго вымагалі яе палітычные інтэрэсы. Але тое, што зрабіла „палітыка“, прымушае ця-

пер паправіць само жыцьцё. Трэбаваньня жыцьця—гэткіе пільные, гэткіе магутные, што—мы ў гэта цьвёрда верым—перад імі змоўкнуць усе старые сваркі і непрыязнь, і грамадзкае сумленьне прымусіць нацыянальнасьці нашаго места прыступіць да супольнай работы дзеля карысьці нашаго народу—на роўных правох, як роўные з роўнымі.

Periculum in mora!

## Чародны крок.

Кіраўнікі тутэйшаго польскаго грамадзянства, як вядома, ўжо даўно працуюць дзеля таго, каб Беларуска-Літоўскіе землі аддаць пад панаваньне Польшчы. Якое было б гэтае польскае панаваньне, мы добра ведаем, бо ўжо спазналі на сваей скуры: тож усім вядома аслаўленая гаспадарка старой «польскай» управы ў Вільні; вядома, што тварылося ў местовым куратарыум над беднымі, ў местовым лазарэці, ды ў бальніцы сьв. Якуба. А ўсёж гэта было ў руках тутэйшых польскіх паноў...

Мала таго, што кіраўнічые кругі польскай буржуазіі пры чыннай помачы польскай часьці «каталіцкаго» духавенства стараюцца за ўселякую цану абертаць нашых беларусоў у «палякоў», каб паказаць, бытцым увесь тутэйшы народ і наш Край — польскі. Цяпер польскіе агітатары надумаліся зрабіць новы крок: яны пачалі ўгаварываць народу, каб ён «шанаваў і слухаўся» польскаго правіцельства, назначэнаго немцамі для Польшчы—ў Варшаве. «Што яно загадае, трэба спаўняць без ніякай споркі»—кажуць тые паны.

Даволі ўжо мелі мы чужацкаго панаваньня за часоў прыналежнасьці да самадзержаўнай Расеі. Даволі мелі і панаваньня польскаго шляхоцкаго правіцельства, якое больш за сто гадоў таму назад запрадало як наш, так і свой польскі народ суседнім дзержавам. І цяпер ніякіе агітатары, хоць бы яны ўбіраліся нет ведама ў якую скуру, не здалеюць накланіць наш народ да слухмянасьці новаму польскаму ураду.

Не здалеюць, бо для кожнаго ясна, што гэты *панскі* урад, які дагэтуль не здалеў здабыць веры польскіх народных масс—пролетарыату і селянства, калі-б толькі яму ўдалося палажыць сваю руку на наш Край, упраўляў-бы намі праз тых жэ паноў, каторые ўжо добра даліся у знакі тутэйшаму народу. Не здалеюць, бо народ наш с кожным днём бачыць усё ясьней і ясьней, што долі і волі дойдзе ён толькі тады, як будзе незалежны ад тых паноў. Не здалеюць, бо проці гэткай нягоднай работы падніме раней ці пазьней свой ёмкі голас польскі рабочы народ, каторы хочэ толькі волі для сябе, а не няволеньня сваіх суседзёў, з якімі пражыў доўгіе гады страшэннаго уціску.

*Г. Б.*

## † Карповіч.

Украінская часопісь «Розсвіт» у № 26 з 25 красавіка 1917 г. падае сумную вестку аб сьмерці нашаго земляка, вядомаго рэвалюцыонера Карповіча, родам з Гомеля.

Карповіч быў родам беларус, але звязаны з украінскім рухам. У 1900 г. ён быў у Львові, стаяў блізка да украінскіх соцыял-дэмократоў, пісаў стацьці аб рэвалюцыйным руху ў Расеі у студэнцкай часопісі „Молодая Україна“ пад прозвішчэм А. Кажухоў. Асабліваж многа працаваў, перавозячы патайна з аўстрыяцкай Украіны ў расейскую украінскіе выданьня ў тым часі, калі пад Расеей прасьледавалі украінскае друкаванае слова.

У 1901 гаду, будучы яшчэ студэнтам, Карповіч забіў расейскаго міністра народнай асьветы, Боголепова. За гэта яго засудзілі у Шліссэльбурскую крэпасць, але адтуль яму ўдалося ўцячы. Да апошняго часу Карповіч пражываў у Англіі і толькі пасьля аб'яўленьня новым расейскім урадам амнэстыі маніўся вярнуцца ў родны край. Ды не судзіла яму доля яшчэ раз ступіць на тую зямліцу, дзеля дабра каторай ён многа цярпеў у жыцьці.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі тэатр.** У нядзелю 28 мая у цырку на Лукішках беларуская драматычная дружына будзе іграць камэдыю „На Антокалі“ Ф. Олехновіча.

Рэч у п'есі дзеецца некалькі гадоў таму назад, тады, калі ешчэ не было вайны, калі Вінцэнтовая, вертаючыся з рынку, абурывалася, што за масло трэба плаціць два злоты, а за капу яек — рубель, калі ў пекную сонечную нядзелю віленцы ехалі на параходзі на маёўку ў Вэркі, каб павесяліцца там, патанцаваць, выпіць ды закусіць у рэстаранным садочку, забыць а сваіх штодзенных дробных клапотах.

Вось, аўтор у 3-м акці пераносіць нас на гульню ў Вэркі. Тут мы спатыкаем усіх знаёмых с першых 2 х актоў, каторые прайшлі праз кватэру антокальскаго шэўца Сьліжыка, ды шмат іншых, між каторымі—цікавая пара кальварыйскіх жэбракоў, зайшоўшых у рэстаран купіць сабе поўбутэлькі манаполькі.

Ёсць і любоў. Маладый работнік Язэп кахаецца у дачцэ Сьліжыка, Зосьцы. Любоўные нешчасьця Язэпа канчаюцца у 3-м акці, калі Зоська згаджаецца выйсьці за яго замуж,- і ўсё канчаецца добра. Хор пяе: „Жыве хай у згодзе з братам брат“, куртына зачыняецца, а публіка пакідае салю радая, што хаця на сцэні пабачыла старые-недаўные добрые часы.

Такое ўражэньне мы атрымалі пасьля першаго прэдстаўленьня гэтай п'есы на сьвята Каляды.

Трэба спадзевацца, што і гэтым разам публікі сабярэцца многа паслухаць мэлёдыйные дуэты Язэпа і Зоські, куплеты жэбракоў і Вінцэнтаго, павесяліцца шчыра, ад душы.

Прадажа білетоў ужо пачалася: у Кнігарні Беларускай (Завальная 7), у крамі коопэратывы „Райніца“ (В. Погулянка 17) і у біблиотэцы на Віленскай вул. 33.

Цэны білетоў ад 25 фэн. да 4 мар.

× **Pass — і Meldeamt** прынімае просьбы аб пазваленьне на падарожу толькі на пісьме. Гэткіе просьбы павінны быць аплочэны напярод гэрбовым зборам.

× **Пагода у красавіку.** Найвышэйшая тэмпэратура ў мінулым месяцы даходзіла + 19°, найніжэйшая — 2,5°.

× **Курс рубля:** афіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 43 ф., пры куплі—2 м. 47 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

## Офіцыальны аддзел.

### Праца, каб адсунуць труднасьці стараваньня насяленьня Вільні.

Новы начальнік нямецкаго ваеннаго упраўленьня Літаўэн, кн. Ізэнбург-Бірштэйн, прыняў у пятніцу выдатных предстаўнікоў насяленьня Вільні розных нацыянальнасьцей і паведаміў іх, што стараньнямі нямецкіх ваенных уласьцей удалося забаспечыць стараваньне насяленьня Вільні да новаго ураджаю, ды гэтак асабліва больш бедные слаі насяленьня будуць абаронены ад цяжкіх мук.

Цяжкіе апусташэньня, якіе расейская армія ўчыніла плянова пры свäім адступленьні па ўсей старане, як вядома, абярнуліся ня гэтулькі проці нямецкіх войск, сколькі *якраз проці нешчасьлівага насяленьня занятых намі цяпер ваколіц.* Усе запасы, да якіх расейцы маглі дайсьці, а так жэ жывёла зніштажаліся ня гледзячы на тое, чы праз гэта ня будуць пакінены на галодную сьмерць годные жалю быўшые падданые цара. Нямецкае упраўленьне ад самаго пачатку старалося залячыць цяжкіе раны, ўчынёные старане расейцамі. У вёсках экономічнымі стараньнямі немцоў удалося ізноў падняць сельскую гаспадарку і развядзеньне скаціны, наскалькі гэта наагул магчымо ў ваенны час і наскалькі гэта можна было зрабіць асабліва *пасьля вывазу усіх запасоў расейцам*

Але расейскае правіцельство здаўна сумысьля абхадзілося з Літвой, як мачыха, і глядзело на тое, каб старана не магла экономічна развінуцца,—дзеля таго, каб

---

Бэльлямі.

## Казка аб вадзе.

(Гл. пачатак у «Гом.» № 40).

Паслалі па знахароў.

Знахары былі людзі хітрые, яны ўсё ведалі і ўмелі разгадываць загадкі; трымалі яны за багачоў, бо даставалі ад іх ваду для сябе і для сваякоў сваіх. Яны заўсягды гаварылі за капіталістоў (багачоў)—ў іх карысць, бо самы багачы не надта былі разумные і ня ўмелі добра гаварыць.

Багачы папрасілі знахароў, каб тые ім растлумачылі, чаму гэта людзі перэсталі купляць ваду, калі яе ў кадушцы столькі, што аж цераз берагі льецца?

Адзін знахар сказаў: «Гэта ад таго, што вады прыгатавалі за шмат» — Другіе так сама гаварылі: «Гэта, мусіць, с тае прычыны, што на сонцы ёсць плямы». А знайшліся і гэтакіе, што даводзілі: «Гэта не таму, што за многа вады, або што на сонцы ёсць плямы, але таму, што цяперака ніхто адзін аднаму ня верыць».

Пакуль знахары спрачаліся паміж сябе, багачы зевалі, зевалі, ды паснулі. А прачнуўшыся сказалі: «Досі гэтаго! Вельмі нам спадабалося ўсё, што вы гаварылі. А цяперака ідзеце паміж людзей ды ўмаўляйце ім, каб яны супакоіліся ды не трывожылі нас болей».

Але знахары — іншые з іх называлі сябе ведзьмарамі—ня вельмі хацелі хадзіць паміж людзей: яны баяліся, каб іх ня вылупілі, бо народ вельмі не любіў іх. І вось што яны сказалі багачом: «Паны, калі сказаць праўду, то тое, што мы вам гаварылі, падабаецца толькі людзям сытым, як вы. Але тые, каго мучыць голад і смага, мала нас слухаць будуць: галодны чэлавек добра разумее, што мы круцім».

А багачы на тое: «Ўсёж-такі ідзеце да народу! Ціж вы ня хочэце болей трымаць за нас?»

Пайшлі знахары да народу тлумачыць яму, як гэта зрабілося, што вады замнога, дый што ад гэтаго самаго яе і бракуе людзям. Гаварылі яны аб плямах, што на сонцы, аб тым, што цяперака ніхто адзін аднаму ня верыць, і што гэта найбольша прычына ўсяе бяды. І знахары як-бы згадалі, кажучы, што народ ім не паверыць: народ зразумеў, што знахары круцяць. Пачаў народ лаяць знахароў: «Ах вы, дурные! За каго вы нас уважаеце? Вы сьмяецёся з нас! Ціж гэта праўда, каб з вялікаго ураджаю ды быў голад? Каб с таго, чаго ёсць шмат, нічога не было? Задвелім жэ мы вам!» — І пачалі пускаць каменьмі у знахароў.

Бачаць багачы, што народ не перэстае бунтавацца, ня слухае знахароў іхніх; страх узяў іх, каб часам народ сілаю не адабраў ваду. І вось паслалі яны да народу пракаў-махляроў умаўляць, каб успакоіўся народ ды не дурыў галавы багачом сваею смагаю. Гэтые махляры-прарокі даводзілі народу, што гэта Бог карае іх, каб збавіць іхнюю душу: калі яны будуць цяперака цярпець, ня будуць дамагацца вады, то пасьля сьмерці яны пападуць у такую старонку, дзе саўсім німа багачоў, ды вады аж надта. Але былі так сама і праўдзівые пракі, каторые шкадавалі бедных людзей; яны не хацелі стаяць за багачоў-капіталістоў, ды гаварылі проціў іх. Ня слухае народ ані пракаў-махляроў, ані знахароў і не перэстае бунтавацца. Страх бярэ багачоў; ідуць яны самы да народу, абмачылі кончыкі пальцаў у тую ваду, што цераз берагі кадушкі лілася, ды давай пырскаці ёю на людзей, што ўміраюць ад смагі. Гэтые кроплі іхняй вады, што называюцца панскаю ласкаю, вельмі былі горкімі для беднаго народу. Але гэтая панская ласка памагла акурат, як знахары ды прарокі-махляры. Народ яшчэ болей заварушыўся, — за малым што гвалтам не апаражніў бочкі.

Згаварыліся багачы паміж сябе, ды пачалі перэцягваць на сваю старану падлізаў панскіх, каторые былі найздатнейшые на ваякоў, ды пачалі умаўляць ім: „Пераходзьце на нашу старану, стойце за нас проціў народу, і мы затое дамо вады для вас і вашых дзяцей“.

Зыйшліся дужые людзі: яны здатны былі на салдатоў і перайшлі на старану багачоў, бо ім вельмі вады хацелося.

Пайшлі яны да багачоў, і тые далі ім пікі ды калы.

Запрадалі яны сваю душу багачом, ды калолі пікамі і білі каламі, калі хто хацеў падыйсьці да бочкі.

Прайшло колькі часу; паменшало ў кадушчы вады, бо капіталісты парабілі з яе саджаўкі і фантаны на гуляньне для жонак, дзетак сваіх і для сябе самых.

(Далей будзе).

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* У заходняй Шампані артылерыйская бітва ўсё болей крапчэе. Пры Брэ адбіты сільные францускіе штурмы.

---

У бітвах на паветры і стрэламі з зямлі збіты ў ворагоў 8 самалётаў.

**Усходні тэатр:**

Без выдатных прыпадкоў.

*Македонскі фронт:* Некольні атак ворагоў проці вяршын Кравіца адбіты с цяжкімі стратамі.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 17. V. **Італьянскі тэатр:** На фронці Ізонцо—новые вострые бітвы. Усе атакі адбіты. Узяты ешчэ 400 палонных.

ВЕНА. 18.V. **Італьянскі тэатр:** Бітва на Ізонцо трывае далей. Вяршына Кук, на палудзенным усходзі ад Плавы, пакінута намі пасьля двохдзённай бітвы. Нашы войскі ўмацаваліся ў некольніх стах мэтроў на ўсходзі ад вяршыны. Ва ўсіх іншых пунктах ворагі з вялікімі стратамі адбіты без астатку.

Ад пачатку баталіі ўзяты больш за 3000 палонных.

---

У начы с 14 на 15 мая нашы лёгкіе марскіе сілы паехалі у праліў Отранто і затапілі італьянскі контрмінаносец, 3 тарговые і 2 аружные вартаўнічые параходы. Узяты ў палон 72 англічаны.

Вертаючыся назад, наш флот меў вострые сустрэчы с пераважываючымі сіламі ворагоў. Быўшая з намі нямецкая падводная лодка затапіла торпэдаю англіцкі крэйсэр с 4 комінамі.

З малымі шкодамі наш флот увесь вярнуўся назад.

ВЕНА. 19. V. **Італьянскі тэатр:** Вострые бітвы трывалі і ўчора — ў сёмы дзень дзесятай баталіі на Ізонцо. Італьянская пяхота, на падмогу каторай падыходзілі ўсё сьвежые сілы, вела чысьленые штурмы на ўсей лініі, але кожын раз яе адкідалі зашчытным агнём. Мы удзержалі ўсе свае пазыціі. Узяты 150 палонных, у тым ліку 2 афіцэры. Збіты 2 самалёты ў бітвах на паветры і 1—стрэламі з зямлі.

На Тырольскім фронці агонь артылеры дайшоў вялікай сілы.

ВЕНА. 20. V. **Італьянскі тэатр:** Дзесятая баталія на Ізонцо трывае далей. Сконцэнтрованым артылерыйскім агнём мы прымусілі адыйсьці назад цераз раку італьянцоў, якіе колькі дзён таму назад умацаваліся пры Ауцца, на левым беразі Ізонцо. Па абедзі пяхота ворагоў павела страшэнны штурм проці Водіцы. У вострай бітве на штыкі, трываўшай гадзіны, ворагі контратакай скінуты з вяршын.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

НЬ'Ю-ІОРК. Заклады, што вайна скончыцца да жніўня, даходзяць 55% проці 45%, а што вайна скончыцца да сьнежня—4 проці 1.

ЛОНДОН. Адзін соцыаліст падаў у Ніжнюю Палату праект **вітаць адрачэньне Расеі** ад усіх імпэрыалістычных дамаганьнёў і зрабіць падобную жэ ваяву **ад імі англіцкаго народу.** Лёрд Сэсіль ад імі ураду заявіў: „Мы цьвёрда пастанавілі не рабіць міра, каторы ня ёсць мірам. Мір, на які мы прыстанем, павінен быць справедлівы і трывалы“.

ЛОНДОН. У Ніжняй Палаці Брайс трэбаваў ад ураду заявы, што Англія ня зробіць **сэпаратнаго міра з Аўстрыей, Боўгарыей і Турэччынай.** На гэта Бонар Лоў адказаў, што каліб удалося прыцягнуць на сваю старану аднаго с саюзьнікоў Нямеччыны, каторая маніцца пасварыць саюзьнікоў Англіі, цык гэта быў бы страшэнны удар.

НІЦЦА. Тут памер б. глаўнакамандуючый сэрбскай арміі, Путнік.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). 18.V. У палудзень тры расейскіе лятучые лодкі атакавалі Констанцу. Нашы марскіе лятуны збілі ўсе тры лятучые лодкі ворагоў. Людзі з іх узяты ў палон.

Пасьля гэтаго нашы марскіе лятуны атакавалі крэйсэры і контрміналосцы ворагоў, якіе абстрэлівалі Мангалію, і абкідалі іх бомбамі. Ня гледзячы на вострый агонь і бітвы ў паветры ўсе нашы лятуны вярнуліся назад.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Аканчацельны падрахунак за месяц красавік: падводнымі лодкамі затоплено у ворагоў караблёў на 1 мільён 91 тысячу тонн, у тым ліку у англічан 664.000 тонн.

Ад пачатку неагранічэнай падводнай вайны — 2.772.000 тонн, у тым ліку у англічан—1.707.000.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі ў Сярэдземным моры 9 параходаў і 6 парусьнікоў, разам 30.000 тонн. ёмкасьці.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіані: 8 параходаў ёмкасьцю 24.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у Атлянтыцкім акіані і Англіцкім каналі: 8 параходаў, 2 парусьнікі і 1 рыбалоў, разам 23.000 тонн ёмкасьці.

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.